Маша Чаракова

Марта Чарнова

# MIKALAI AND THE BIRD POOP

# Мікалай і птушыная нечаканасць



Беларуская казка на дзвюх мовах ад стваральнікаў праекта
A Belarusian children's tale in two languages from the creators of

Heta Belarus Dzietka!

Неяк аднаго прыгожага дня па абедзе Мікалай з дзядулем павольна прагульваліся па алеі цяністага парку і абменьваліся сваімі думкамі і марамі.

One beautiful afternoon, Mikalai and his grandfather were walking in the park and talking about their dreams.





І якраз у той момант, калі дзядуля запытаў у Міколы, пра што яму марыцца, раптам здарылася нешта нечаканае... Птушка на ляту пакінула свой «след» за сантыметр ад левай нагі старога.

«Ого, як табе пашанцавала!» — узрадаваўся хлопчык.

«Не, малеча, мне пашанцавала б тады, калі б птушка ўсё ж пацэліла ў мяне. Ці ведаў ты, што, калі «птушыная нечаканасць» трапляе на цябе, гэта прыносіць багацце?»

Just as grandpa asked Mikalai, what his biggest dream was, something unexpected happened: a bird poop landed right in front of grandpa's left foot!

'Wow grandpa, you are so lucky!' Mikalai exclaimed.

'Oh no, my dear boy, it would have been luck had the poop landed ON me,' grandpa replied with a grin. 'Did you know that bird poop brings great wealth when it lands on you?'

Раптоўна Мікалай ажывіўся: «Дзядуля, дзядуля! Я ведаю, пра што я мару! Я хачу быць багатым! Тады я змагу набыць сабе ровар і шмат цукерак, шакаладу і цацак, і...»

Пакуль яны сядзелі на лаўцы, Мікола ўсё выразней уяўляў, што ён набудзе, калі разбагацее. Але спачатку, вядома, яму трэба было знайсці добразычлівую птушку, якая пагадзілася б дапамагчы.

Suddenly, Mikalai shouted, 'Grandpa, grandpa! I know what my dream is! I want to become wealthy! Then I could buy bikes and candy, chocolates and toys and ...'

Mikalai and grandpa sat down on a bench, and the boy went on and on about all the things he would buy with his wealth. But first, of course, he needed to find a friendly bird who would poop on him and make him rich!



Уначы хлопчыку прысніўся сон, у якім птушка прыцэлілася і патрапіла яму на самую галаву. Ён прачнуўся вельмі ўзрушаны!

Гэтым ранкам Міколка перш за ўсё пабег у парк шукаць свайго багацця.

That night, Mikalai dreamt of a bird poop landing perfectly on him, making him incredibly rich. When he woke up, he was very excited.

First thing in the morning, Mikalai rushed to the park to find his wealth!



Там ён убачыў дзвюх птушак, якія сядзелі на галінцы высокага дрэва. Хлопчык ветліва запытаўся: «Прабачце, мілыя птушкі, ці не маглі б вы зрабіць мяне багатым?» Ён нават паабяцаў прыносіць ім зерне кожны дзень, перш чым ісці ў школу. Але выглядала на тое, што птушкі зусім не зацікавіліся яго прапановай.

As Mikalai entered the park, he immediately saw two birds sitting on a branch of a very big tree. 'Excuse me birds, would you be so kind as to poop on me?' he asked politely. He even promised he would bring them seeds every day before school. Unfortunately, the birds didn't seem to be interested in the boy whatsoever.





Засмучаны Міколка павольна ішоў па парку, пакуль не ўбачыў дзяўчынку, якая карміла птушак. Уражаны тым, колькі птушак яна сабрала вакол сябе, хлопчык вырашыў папрасіць у яе крыху хлеба, таму што яму вельмі хацелася «схапіць удачу». Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на Мікалая, але адламала кавалачак і падала яму.



As he continued walking through the park, Mikalai saw a girl feeding the birds. Seeing how many birds she was able to gather around, he decided to ask her if she would give him some bread so he could 'get lucky.' The girl looked very confused, but shared some bread with Mikalai anyway.

Хлопчык пакрышыў хлеб і насыпаў крошак на сваю галаву, у рукі і нават на чаравікі. Гэта тут жа заўважылі птушкі! Ён пачаў цярпліва чакаць... Нарэшце адна з іх паспрабавала паласавацца хлебам з рукі.

Mikalai sprinkled the bread all over himself: on his head, his hands, and even his shoes. This definitely got the birds' attention! He waited patiently and finally... one of the birds decided to land on his hand and eat the bread.



Міколка хутка схапіў птушку і хацеў пасадзіць яе сабе на галаву, спадзеючыся, што яна пакіне яму «след». Але да яго падбегла тая самая дзяўчынка, схапіла за руку — і птушка пырхнула прэч.

«Што ты робіш з гэтай беднай птушачкай?!» — заплакала дзяўчынка. Міколка пачаў яе супакойваць і распавёў, што проста хоча разбагацець, а хуткі спосаб дасягнуць гэтага — зрабіць так, каб птушка пакінула на табе свой «след». Дзяўчынка гучна засмяялася і вырашыла дапамагчы гэтаму дзіўнаму, але вясёламу хлопчыку. «Мяне клічуць Аня», — сказала яна.

Quickly, Mikalai snatched the bird and tried to put it on his head in hopes that she would poop on him. Before anything could happen, the girl ran over, grabbed Mikalai's hand, and the bird escaped.

'What are you doing to that poor bird?!' the girl cried out. Mikalai then calmly explained to the girl that he wants to become rich, and the fastest way to do that is to have a bird to poop on you. The girl laughed at the strange explanation, but then decided to help this peculiar yet funny boy on his quest. 'My name is Anja,' the girl said.



Такім чынам, Мікола і Аня пасябравалі і пачалі думаць, як ажыццявіць гэтую няпростую мару хлопчыка. Спачатку яны вырашылі даведацца, як, дзе і калі птушкі «ходзяць у прыбіральню». Увесь дзень дзеці назіралі за імі ў парку, і вось нарэшце ў іх выспела ідэя.



And so, Mikalai and Anja set out on their mission. They first decided to research how, where, and when birds poop. They spent almost half a day studying the birds and coming up with ideas of how to best get pooped on.





«Я чула, што птушкам падабаецца зялёны колер», — сказала Аня. Таму назаўтра яны змайстравалі адмысловую зялёную шапку, аздобленую лісцем, на якой было напісана «ПРЫБІРАЛЬНЯ ДЛЯ ПТУШАК». Але нягледзячы на тое, што дзеці нават некалькі разоў прабеглі праз увесь парк, ніводная птушка не спакусілася наведаць гэтую «прыбіральню».

'I think I heard somewhere that the colour green attracts birds,' Anja said. So the next day they made a special green hat with leaves and a round top that said 'POOP HERE'. But even after running around the park with the hat on all day they still didn't manage to get pooped on.



Тады Міколка са сваёй новай сяброўкай вырашылі падысці да справы больш творча і паехалі ў заапарк. Там яны ўбачылі шмат самых розных птушак: паўлінаў, пугачоў, фламінга, нават страусаў! Вось дзе сапраўды ўсё павінна атрымацца! Але зноў-такі, страціўшы цэлы дзень, дзеці пайшлі дадому ні з чым.

They decided to get even more creative and headed to the zoo. All kinds of birds lived there: peacocks, owls, flamingos, and even ostriches! Surely, they would get pooped on by one of these birds! But after spending the entire day at the zoo, they still hadn't been pooped on...



«Ёсць у мяне яшчэ адна ідэя, — сказала дзяўчынка. — Глядзі, колькі белых плямак на асфальце! Можа, нам варта пастаяць тут!»

Але птушкі чамусьці не спяшаліся дапамагчы дзецям разбагацець...

'This must be a good idea,' Anja says, 'look at how much poop there is on this statue, let's just sit here and wait for the poop to come to us.'

But the birds just didn't seem to have to go...





Назаўтра Міколка і Аня заўважылі, што на машыне, якая стаяла каля дому, безліч белых плямак, пакінутых птушкамі. Таму яны вырашылі забрацца на дах гэтага аўтамабіля і чакаць свайго шчасця там. Пакуль дзеці размаўлялі пра школу, хобі, сяброў і свае мары, яны нават не заўважылі, як... раптоўна на плячы Міколкі намалявалася птушыная «адмеціна»!!!

The next day, Mikalai and Anja noticed that a car parked near their house was completely covered in poop. They decided that it would be a good idea to climb up on car and just wait patiently. As they waited, they began to talk about school, hobbies, friends, and even their dreams. They got so caught up that they almost didn't notice it when... a big bird poop landed right on Mikalai's shoulder!!!



Ад радасці яны пачалі спяваць і скакаць, прыгаворваючы: «Нарэшце мы станем багатымі!» Але... нічога не змянілася. З неба не пасыпаліся манеты, і ніхто не падарыў ім гаманцы з вялікімі грашыма. Мікалай і Аня вырашылі пайсці да дзядулі і запытацца ў яго, калі ж нарэшце прыйдзе доўгачаканае багацце.

«Дзядуля, глядзі, мне пашанцавала! — радасна крыкнуў хлопчык, паказаўшы на сваё плячо. — Калі ж у мяне ўрэшце з'явяцца грошы?»

They danced and jumped around singing with joy, 'We will be wealthy, we will be rich!'

But then... nothing happened. No coins rained down from the sky, no one brought them bags of money. Mikalai and Anja decided to go ask his grandpa when exactly the wealth would come.

'Grandpa, look, I got lucky!' said Mikalai, pointing to his shoulder. 'When will my money come?'

«Даражэнькі мой унук, я ніколі не казаў, што багацце — гэта абавязкова грошы, — адказаў дзядуля, смеючыся. — Багацце можна прыдбаць у самых розных формах. Гэта напрыклад, шчасце, вялікае каханне або шчырае сяброўства».

'My dear grandson, I never said wealth comes only in the form of money,' grandpa replied with a smile. 'Wealth can come in many different forms, like happiness, great love, and genuine friendship.'



Мікалай і Аня няўцямна зірнулі на дзядулю, паціснулі плячыма і пабеглі шукаць новыя прыгоды, забыўшыся на багацце і ўсялякія «птушыныя начаканасці».

Not fully understanding his grandpa’s answer, Mikalai and Anja shrugged their shoulders and ran off together to find a new adventure, forgetting all about getting rich and bird poop.



**Падзякі**

Па-першае, вялікі дзякуй нашым дарагім бацькам, якія, безумоўна, любяць нас, якія навучылі нас упарта працаваць і быць шчырымі. Наша другое «дзякуй» мы гаворым тым, хто падтрымаў нас падчас нашай краўдфандынгавай кампаніі ў 2016 годзе. Дзякуй, што вы паверылі ў каштоўнасць гэтай кнігі так, як верым у яе мы. Дзякуй Ганне Грыдзюшка і Алёне Ліс за пераклад з англійскай на беларускую мову. Крысцін М. Фокс, дзякуй табе за твой рэдактарскі талент. Вялікі дзякуй Пятру за падтрыманне разумовага тонусу ілюстратаркі. І нарэшце, дзякуй Вадзіму Каспяровічу за вёрстку кнігі.

**Acknowledgements**

First of all, a very big thank you to our parents, who showed us unconditional love and taught us the values of hard work and honesty. Our second big thank you goes to all our supporters who have supported us during our crowdfunding campaign in 2016. Thank you for believing in the value of this book as much as we do. We would like to thank Hanna Hrydziushka and Alyona Lis for translating into the Belarusian language. Christine M Fox, thank you for your great English editing skills. Huge thanks to Peter for keeping the illustrator sane. Last, but not least: thanks to Vadzim Kaspiarovich for putting this book together.

# Пра аўтараў

About the authors

Аўтаркі гэтай казкі, Маша Чаракова і Марта Чарнова, — дзве беларускі, заснавальніцы праекта і аднайменнай кнігі «Гэта Беларусь, дзетка!». Гэта пацешны даведнік аб асаблівасцях беларусаў і іх краіны. Пасля таго як праект і кніга набылі вялікую папулярнасць сярод чытачоў (кніга ўвайшла ў спіс бестсэлераў 2016 года), дзяўчынкі вырашылі працягнуць пісаць для беларусаў, дапамагаючы ім усвядоміць сваю адметнасць і ўнікальнасць.

Гэтая казка выйшла з друку дзякуючы сумесным намаганням вельмі многіх людзей, якія зрабілі свой унёсак падчас нашай краўдфандынгавай кампаніі. У траўні 2016 года мы збіралі сродкі для стварэння дзвюх кніг: адна — пра гісторыю Беларусі, а другая — казка, якую вы зараз трымаеце ў руках!

**Вялікі дзякуй ўсім тым, хто падтрымаў наш праект!**

The authors of this tale, Masha Cheriakova and Marta Chernova — two Belarusian girls, authors of the project and book called "Heta Belarus, dzietka!". The book is a fun guide to the peculiarities of the Belarusians and Belarus. "Heta Belarus, dzietka!" quickly became very popular among readers (a bestseller of 2016), so the girls decided to continue writing about Belarusian uniqueness.

This book was made possible through the joint efforts of many people who have contributed to our crowdfunding campaign. In May 2016 the project "Heta Belarus, dzietka!" was able to raise funds for the creation of two books: one about the history of Belarus, and the second — the book you are now holding!

**Thanks so much to all those who supported our project and this very book!**


**hetabelarusdzietka.com**
**etobelarusdetka@gmail.com**

Heta Belarus Dzietka!

**fb.com/etobelarusdetka**
**instagram: hetabelarusdzietka**




Пасля таго як дзядуля сказаў маленькаму Мікалаю, што «птушыная нечаканасць», патрапіўшая на чалавека, прынясе яму багацце, хлопчык пачаў шукаць усе магчымыя шляхі для таго, каб разбагацець. Падчас сваіх пошукаў ён сустрэў дзяўчынку Аню, і разам яны знайшлі тое, чаго нельга набыць за грошы, — сяброўства.

After his grandfather told Mikalai that bird poop brings wealth, he goes on an adventure to find a bird who will poop on him. On his quest he meets a girl called Anya, and together they find something money can't buy... friendship.



Ад стваральнікаў Heta Belarus Dzietka!
From the creators of

ПОПУРРИ
popuri.ru
ISBN 978-985-15-3410-0
9 789851 534100
EAC
6+